" Жыве Беларусь !"

"...Біце у сэрцы іх,біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць... "
Максім Багдановіч

# РОКАШ



N 9 Газета Прыазерскай гарадской рады Т Б М імя Францішка Скарыны лістапад 1991 г.
( Джэзказганскай вобл. Каз.С С Р ).

## Ш А Н О У Н Ы Я Ч Ы Т А Ч Ы

Два месяцы газета " РОКАШ " не выходзіла у свет. Два месяцы была забаронена. На даны момант рэдакцыі удалося атрымаць неафіцыйны дазвол аднавіць выданне, і вось мы зноу вітаем вас, тых, каму не абыякавы лес нашай гаротнай, нашай занядбанай, нашай абняхаенай Бацькаушчыны.

Мы выказваем шчырую падзяку народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь Яугену Цумараву і народнаму дэпутату Казахскай ССР Паулу Атрушкевічу, а таксама адказнаму сакратару культурнага асяродка " Беларусь " у Алма-Аце Яугену Майсейчыку за дапамогу у аднауленні выдання газеты.

Мы аднауляем выданне " РОКАШа ", а гэта разам з тым азначае, што " дэмакратычныя " перамены у Савецкай Арміі " паспяхова завершаны", можна працаваць, як раней.

Рэдакцыя.

## Н Е З А Л Е Ж Н А С Ц Ь .

Светлы дзень, светлы час. Незалежнасць
Лашчыць сэрцы, і душы, і лес.
Светлы дзень, светлы час. Непазбежнасць
Нашай волі ідзе ад нябес.

Мы акрылены вечнай надзеяй,
Нашых марау штандары шумяць,
Нашых мрояу заранка ірдзее,
Нашых думак канем не дагнаць.

Мы паходняй святой непакоры
Разганяем бязвольнасці цвіль,
Мы ідом на свабоды прасторы,
Мы выходзім са змроку магіл.

А навокал ваукі з крумкачамі
Шчэрацъ зяпы на нашу зямлю,
Мой народ, ты з пустымі рукамі
Не адстоіш свабоду сваю.

Ты адкрытай мазольнай далонню
Мусіш толькі даваць і даваць,
Талент, хлеб і дзяцей у прадонне,
У нахабную прорву кідаць.

Дык пастау ты далонь тую рубам,
А шчэ лепей зацісні у кулак,
Скрыгатні хоць затворам, хоць зубам
І прыпомні, што ты быу ваяк.

Ад твае ваяунічае славы
Шмат дрыжалі і Захад, і Усход,
Ты - нашчадак вялікай дзяржавы,
Мой забіты, гаротны народ.

Мы сыны твайго вечнага болю,
Мы паусталі у апошні мо раз,
Мы заплацім за волю сабою,
Ты вазьмі, ты вазьмі толькі нас.

Ты вазьмі нашу смеласць і сілу,
Нашай кроую свой сцяг акрапі,
І хай нашыя будуць магілы
Для цябе, як памежжа слупы.

Каб ніколі, ніколі, ніколі
Ты не мог больш назад адысці
Са святое дарогі да волі,
З найцяжэйшай дарогі у жыцці.

25.10.1991г. Станіслау Суднік.

## ЗРАЗУМЕЦЬ, ПРЫНЯЦЬ, АЖЫЦЦЯВІЦЬ.

" Народ, які не хоча
карміць свае войска,
будзе карміць чужое".
( Напалеон Банапарт )

Як карміць чужыя войскі беларусы ведаюць добра, бо кармілі, і паілі, і дагаджалі войскам ледзь ці не усіх навакольных краін. Асаблівую гасціннасць даводзілася паказваць апошнія два стагоддзі, пачынаючы з часоу, калі ВКЛ страціла рэшткі самастойнасці. Хто толькі не таптау нашу зямлю, хто толькі не высмоктвау апошнія сокі з нашага народа: Расея, французы, зноу Расея, немцы, бальшавікі, палякі, бальшавікі, немцы і нарэшце апошні этап-Савецкія Узброеныя Сілы. Як відно, нахлебнікау было дастаткова. І выжыльвауся беларус, кідаючы у бяздонную прорву плен сваей працы, аддаючы ва усе гэтыя войскі сваіх дзяцей, атрымоуваючы назад ці паведамленне аб смерці, ці цынкавыя труны, ці калек. Лепшыя сыны Беларусі шмат разоу пауставалі, аддавалі свае сілы і жыцці, ішлі у выгнанне дзеля таго, каб Беларусь мела свабоду, мела уласнае войска, мела сапраудную незалежнасць і магла яе абараніць. Паустанні Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноускага, выбранецкія дывізіі і Асобны Атрад БНР Булак-Балаховіча, партызанскія атрады і батальены Краевай Абароны - усе гэта імкненне да той жа свабоды, усе гэта шчодра паліта крывею беларускіх сыноу. Усе гэтыя прыклады настойліва сцвярджаюць адно: калі Беларусь хоча быць, хоць на пазногаць, незалежнай, яна павінна мець свае войска. Зразумець гэта легка, прыняць цяжэй, ажыццявіць цяжка надзвычай.

Што трэба для таго, каб зразумець? Трэба зразумець сацыяльна-палітычную сітуацыю, у якой знаходзіцца Рэспубліка. А сітуацыя, як бы мы не круціліся-гэта сітуацыя нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі. Вопыт шматлікіх рэвалюцый і рэвалюцыйная тэорыя, так выдатна распрацаваная бальшавікамі, трэба аддаць ім належнае, высвятляюць усе неабходныя атрыбуты нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі. Мы маем вярхі і нізы, адны не могуць, а другія не хочуць жыць па-старому, мы маем метраполію у асобе Цэнтра і калоніі - рэспублікі, мы маем прадажную сутнасць нацыянальных вярхоу, якія самі імкнуцца задушыць нацыянальна-свядомыя сілы, мы маем рост нацыянальнай свядомасці і імкненне да перадзелу свету ( Расея імкнецца выступіць спадкаемцам Саюза і высоувае тэрытарыяльныя прэтэнзіі да рэспублік ). Трэба зразумець і тое, што паміж кожнай нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыяй і незалежнасцю стаяла нацыянальна-вызваленчая вайна. Зразумеушы гэта лягчэй зразумець, для чаго ж Беларусі свае войска. А для таго, каб не дапусціць вось іменна гэтай вайны, замяніць яе узброеным мірам.

Што трэба каб прыняць ідэю нацыянальнага войска? Гэта гледзячы каму. Для нацыянальна-свядомых сілау гэтае пытанне вырашана дауно і адназначна. У Вярхоуным Савеце гэтае пытанне выклікае жорсткае непрыняцце. Хаця можа здарыцца і так, як было з незалежнасцю і сімволікай: некалькі гадоу лемантаваць "не", каб на працягу гадзіны усе вырашыць станоуча. Дык чаму ж большасць дэпутатау парламента Беларусі не прымае ідэю нацыянальнага войска. Варта падумаць. Магчыма таму, што нацыянальнае войска - гэта, як шлагбаум, які назауседы зачыніць дарогу назад.

Нацыянальнае войска за адзін-два гады так падыме нацыянальную свядомасць, што большасці дэпутатау з іх касмапалітычнымі поглядамі давядзецца расстацца з цеплымі месцамі.

Нацыянальнае войска імкліва рушыць наперад Закон аб дзяржаунасці беларускай мовы і не пакіне мейсца на нашай зямлі тым, каго абражае сам зварот да яго па-беларуску.

( працяг на 4-ай старонцы )

ЛУНАЮЦЬ ГРУНВАЛЬДА ШТАНДАРЫ .

Сынкі! А мы што жа?
Нам будзе нягожа,
Каб мы не пайшлі на падмогу...

Булак-Балаховіч.

Эпіграфам да гэтага артыкула узяты радкі з верша "Покліч Бацькі" напісаныя славутым барацьбітом за незалежнасць Беларусі, камандзірам Асобнага Атрада БНР, Беларускім генералам Станіславам Булак-Балаховічам. Пісаліся яны у цяжкі для нашай Бацькаушчыны 1919 год, але і дагэтуль не згубілі сваю актуальнасць. І быццам да цяперашніх ваяроу звяртаецца легендарны Бацька з заклікам на падмогу.На падмогу тым, хто змагаецца за свабодную і незалежнаю Беларусь. Гэтым ідэялам прысвяціу свае жыцце Наш Генерал, а эстафету перанялі ягоныя нашчадкі, сенняшнія беларускія вайскоуцы.

Яны сабраліся у Менску 12 кастрычніка на свой першы беларускі з'езд. Больш за 120 дэлегатау з'ехалася з розных куткоу Беларусі і былога СССР. Казахстанскую дэлегацыю прадстауляли чатыры чалавекі: падпалкоунік Суднік, маер Маргун, капітаны Грамадка і Супаненка. Прысутнічалі на з'ездзе шматлікія госці, прадстаунікі усіх існуючых на Беларусі палітычных партый ( апрача КПБ ), прадстаунікі грамадскіх руху, прыватныя асобы. Ахову з'езда і прапускны рэжым забяспечвалі выбранцы на чале з лейтэнантам запасу Чыславым. Зала Дому літаратара дзе адбываўся з'езд, была упрыгожана беларускай дзяржаунай сымболікай, Грунвальдскімі сцягамі, правобразам будучай эмблемы Згуртавання.

Падпалкоунік Мікалай Статкевіч, прадстаунік Менскага згуртавання, прапанавау распачаць з'езд хвілінай смутку у памяць змагароу за незалежнасць Беларусі за усе часы, пачынаючы ад Полацкага княства.

Затым ен жа выступіу са справаздачным дакладам. Падпалкоунік Статкевіч распавеу пра гісторыю Згуртавання вайскоуцау, сказаушы, што утворана яно было у часы путчу 20 жніуня 1991 года з мэтай супрацiву магчымаму захопу улады ваеннай хунтай. Не абмінуу ен і казахтанскае згуртаванне, згадаушы, што менавіта яно, яшчэ два гады таму, заснавала беларускі вайсковы рух.

Далей, дакладчык спыніуся на неабходнасці згуртавання усіх вайскоуцау беларускага паходжання у адзін моцны рух. Гэты рух павінен забяспечыць у будычым немагчымасць ваеннага перавароту, будзе спрыяць выпрацоуцы і правядзенню на Беларусі ваеннай рэформы і будзе сацыяльна абараняць вайскоуцау. Асобнае месца у дакладзе атрымала пытанне аб Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Як прамова, так і спрэчкі па дакладу паказалі аднадушнасць выступаючых:

НА БЕЛАРУСІ ПАВІННЫ БЫЦЬ УЛАСНЫЯ УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ.

І Згуртаванне павінна рыхтаваць да гэтага вайскоуцау Беларусі. Шляхам агітацыі і прапаганды, працай у часцях і сярод цывільных, праз парламенцкую трыбуну і сродкі масавай інфармацыі павінна ісці гэтая работа. Перад кожным вайскоуцам пытанне трэба ставіць так:

ЦІ ГАТОУ ТЫ СЛУЖЫЦЬ У БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ.

Што да вайскоуцам, якія служаць за межамі Беларусі, дык тут патрэбна утварэнне банка дадзеных. У яго павінна сцякацца інфармацыя аб тых вайскоуцах, якія жадаюць служыць на Беларусі. Гэтыя дадзеныя будуць знайходзіцца ва утвораным Міністэрстве Абароны Беларусі, якое і зоймецца  гэтым пытаннем.

У час працы з'езду дэлегатам былі раздадзены Праграма, Статут Згуртавання. Адразу пачалося іх абмеркаванне. У спрэчках выступалі прадстаунікі рэгіянальных згуртаванняу. Яны дзяліліся сваімі уражаннямі пра з'езд, давалі слушныя прапановы, даводзілі настроі вайскоуцау у Савецкай Арміі, абмяркоувалі дзейнасць будучага Згуртавання. Выступаючыя былі адзіныя у неабходнасці беларускага вайсковага руху.

Давалася слова і гасцям з'езда. Ад імя Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады вітау з'езд Міхась Ткачоу. Ен жа перадау прывітанне ад старшага лейтэнанта запасу Васіля Быкава, які з-за хваробы не прыехау на з'езд.

Ад імя сялянскай партыі выступіу ейны старшыня, былы вайсковец, палкоунік запасу Ялугін. Тым вайскоуцам,якія пажадаюць вярнуцца на сяло, зазначыу ен, партыя будзе спрыяць у авалоданні зямлей, пабудове жылля і уключэнні у сялянскую працу.

Зянон Пазьняк, старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту, распавеу аб высілках, якія робіць апазіцыя у Вяхоуным Савеце для утварэння Узброеных Сіл і Рэспубліканскай Гвардыі.

Выступау на з'ездзе камандуючы арміяй супрацьпаветранай абароны генерал-лейтэнант Асмалоускі, адзіны з генералау, хто адгукнууся на запрашэнне. У сваей прамове ен сказау, што Цэнтр не здольны правесці ваенную рэформу і задзейсніць яе магчыма толькі у межах рэспублікі. Ен рэзка выказауся супраць камандвання Беларускай Ваеннай Акругі, кіраунікі якой, на думку генерала, з'яуляючыся " танкістамі " ( на працягу колькіх гадоу Акругай камадуюць прадстаунікі танкавых войск ) не рацыянальна выкарыстоуваюць усю ваенную моц рэспублікі, а аддаюць перавагу танкам, што у сучаснай вайне непрыймальна. Дарэчы, ваенныя падзеі у Пярсіцкай затоцы яскрава паказалі, хто забяспечвае вырашальную ролю у сучаснай вайне. Авіяцыя, з яе разнастайнымі функцыямі, у спалучэнні з рознатыпнай высокадакладнай ракетнай зброяй за лічаныя дні, знішчала большую частку ваеннапрамысловага комплексу і галоуныя вайсковыя аб'екты Ірака, з мінімальнымі стратамі. І менавіта гэтым быу вырашаны канчаткова лес Кувейта, адкуль шматлікія танкавыя групоукі Ірака, практычна не уступіушы у бой, вярнуліся дамоу з паразай.

Вось чаму, генерал-лейтэнант Асмалоускі і засяродзіу увагу на карэнным перагляде ваеннай палітыкі на Беларусі і выказауся за моцныя Узброеныя Сілы.

Ад імя Саюзу афіцэрау Украіны вітау з'езд народны дэпутат СССР палкоунік Марцірасян. Ен спецыяльна прыляцеу дзеля гэтага у Менск, літаральна на тры гадзіны. У сваей прамове ен выказауся за шчыльныя стасункі паміж Украінскім і Беларускім Згуртаваннямі. расказаушы пра гісторыю САУ, ен спыніуся на дзейнасці Саюзу, зазначыу, што за два-тры месяцы Саюз стау масавым і уплывовым, з якім лічацца і усе партыі на Украіне і Міністэрства Абароны СССР. Дасталося у прамове палкоуніка Марцірасяна і нашаму Вярхоунаму Савету за кансерватызм, пасіунасць, няздольнасць вырашаць надзейныя пытанні. ( Гэта аспрэчыу беларускі дэпутат Алег Трусау ). Не абыйшоу украінскі госць і традыцыйнае " лаянне генералау ", сказаушы што усе камандуючыя акругамі падтрымалі путч і павінны пайсці у адстауку, альбо іх трэба звольніць. Ен перадау з'езду шэраг распрацаваных САУ дакументау па вайсковых пытаннях, а падпалкоунік Статкевіч з удзячнасцю іх прыняу, пры гэтым адзначыушы, што у нас аналагічныя дакументы есць таксама.

Нельга абмінуць і яшчэ адно пытанне, якое падымалі і прыводзілі прыклады палкоунік Марцірасян і іншыя выступаючыя. Усе у тым, што у войску вымалеуваецца трывожная тэндэнцыя вываду з Украіны і Беларусі у Расею узбраенняу і тэхнікі усімі мажлівымі шляхамі. А прадстаунік Разані прывеу шыфроуку, згодна з якой, спыняюцца пастаукі медычнага абсталявання і медыкаментау на Беларусь і Украіну. Гэта нядобры знак. І па рашэнню з'езда і абранай ім Рады неабходна аб такіх выпадках неадкладна паведамляць у Згуртаванне, альбо у апазіцыю Вярхоунага Савета і супроцьдзейнічаць гэтаму усімі магчымымі сродкамі.

Сярод выступаючых былі і прадстаунікі нашага казахстанскага згуртавання: падпалкоунік Суднік і капітан Супаненка. Як і заужды, пазіцыя прамоуцау была вострая і радыкальная. Яны выказаліся за недапушчальнасць вываду з Беларусі у Расею ядзернай зброі, а за захаванне яе на пэуны тэрмін на тэрыторыі рэспублікі, а затым паступова яе знішчаць разам з Расеяй, Украінай і заходнімі дзяржавамі. Такая пазіцыя была успрынята дэлегатамі, як кажуць, неадназначна. І у заяве, якая з'явілася у час працы з'езда, было асобна падкрэслена, што згодна з Дэкларацыяй Беларусь імкнецца да без'ядзернасці і таму, мауляу, з ядзернай зброяй трэба расстацца як мага хутчэй.

Нашы прамоуцы ставілі пытанне і аб вайскоуцах беларускага паходжання. У прыватнасці гаварылася, што трэба прымаць захады, каб спыніць вывад вайскоуцау з Беларусі, а, таксама, рабіць усе магчымае для неадкладнага адклікання на Беларусь тых, хто служыць па-за яе межамі. Прычым апошняе, трэба праводзіць праз суполкі рэгіянальных беларускіх згуртаванняу. Тлумачыцца гэта тым, што есць такія беларусы, якія здрадзілі Бацькаушчыне, праводзяць антыбеларускую лінію, не прызнаюць ні гісторыю, ні мову, ні дзяржаунасць Беларусі. Пазіцыя казахстанскай дэлегацыі у гэтым пытанні была адназначная: такія юда-беларусы Беларусі не патрэбны.

А закончыуся першы дзень працы з'езду утварэннем беларускага вайсковага руху, які стау называцца Беларускім Згуртаваннем Вайскоуцау. Дэлегаты прагаласавалі аднадушна.

Пасля першага дня з'езду адбылося урачыстае шэсце. Ад будынку Дома літаратара калона беларускіх вайскоуцау рушыла у парк Я.Купалы, дзе адбываuся канцэрт "Рок за незалежнасць ". Пад Грунвальдскімі сцягамі ішлі побач лейтэнанты і палкоунікі, курсанты і афіцэры запасу, было радасна і урачыста, многія упершыню усвядомілі, якое гэта шчасце служыць сваей Бацькаушчыне. Там, у парку, падпалкоунік Статкевіч выступіу у прамым эфіры па Беларускаму тэлебачанню са зваротам да народу Беларусі і Вярхоунага Савета. Гэты зварот быу ухвалены на з'ездзе і гаварылася у ім, аб утвораным Беларускім Згуртаванні Вайскоуцау, аб іх жаданні служыць свайму бел-чырвона-беламу сцягу.

На другі дзень з'езд працягвау сваю працу. Сярод выступаючых знайшліся і правакатары, якія жадалі сарваць з'езд. Але дэлегаты адрэагавалі на гэта заявай, у якой адмежаваліся ад іх выступленняу.

Сумненняу няма, што беларуская мова стане рабочай і у Беларускім Войску. Таму з асаблівым задавальненнем быу прыняты падарунак з'езду ад народнага дэпутата Беларусі Яугена Цумарава. Гэта былі вайсковыя падручнікі і статуты на беларускай мове часоу існавання беларускіх вайсковых фарміраванняу.

У сярэдзіне дня спрэчкі спыніліся і пачаліся выбары кіруючых органау БЗВ. З'езд аднадушна абрау старшыней Згуртавання падпалкоуніка Мікалая Віктаравіча Статкевіча. Была абрана Каардынацыйная Рада БЗВ. Рэгіянальныя згуртаванні вылучылі у Раду сваіх прадстаунікоу. З'езд прыняу сымболіку БЗВ.

У той жа дзень дэлегаты заказалі у Рускай Праваслаунай Царкве імшу за змагароу аддаушых свае жыцце за Беларусь. Але РПЦ святкавала Пакровы і мерапрыемства не адбылося. Параіушыся, улічваючы што РПЦ на Беларусі праводзіць антыбеларускую палітыку, не валодае беларускай мовай, было прынята рашэння замальдаваць беларускую імшу у касцеле Святога Роха 16 лістапада.

Скончыуся з'езд урачыста-спяваннем беларускага гімна " Мы выйдзем шчыльнымі радамі ". І хоць словы ведалі не усе, мяркую, што наступным разам голас беларускіх вайскоуцау будзе гучаць дружна і моцна.

